



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

22 лютага 2019 года №8 (1243)

18+


З Днём абаронцаў Айчыны!

# Віляйчанка пайшла на майстар-клас па масажы, а вярнулася з непад'ёмным крэдытам

старонка 21

Фота Таццяны КАСЬЯН. Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.



ISSN 1991–7155




Адсканулйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## У аддзеле ідэалагічнай работы Маладзечанскага райвыканкама – новы начальнік

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 12 лютага аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама ўзначаліла **Раіса Казановіч**, расказала карэспандэнту начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама **Таццяна Шафаловіч**.

Нагадаем, што без начальніка аддзел быў ад трэцяга студзеня. Былы кіраўнік **Соф'я Філістовіч** працуе на пасадзе першага намесніка галоўнага ўпраўлення па адукацыі Мінаблвыканкама.

Да гэтага Раіса Казановіч працавала дырэктарам Мінскага абласнога краязнаўчага музея.

У музеі нам паведамілі, што пакуль невядома, хто ўзначаліць установу. Пытанне вырашаюць на абласным узроўні.

Абавязкі кіраўніка тут выконвае **Наталля Палтавец**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ваўкі наводзяць жах на Валожыншчыну і суседнія раёны

ВАЛОЖЫН

У Валожынскім раёне павялічылася папуляцыя ваўкоў.

Яны нападаюць на свойскую жывёлу і становяцца небяспечнымі для людзей.

Ваўкоў тут пачалі адстрэльваць. Падобнае санітарнае мерапрыемства ладзяць штогод.

Леснікі ўжо застрэлілі пяць ваўкоў і дзвюх ліс у Налібоцкай пушчы, у ляснічых ад Івянца.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## Дзіцячы цэнтр «Надзея» стаў лепшым у краіне

ВІЛЕЙКА

14 лютага ў санаторыі «Прыазёрны», што на Мядзельшчыне, правялі рэспубліканскую нараду па выніках аздараўлення і санаторна-курортнага лячэння за мінулы год, паведамілі ў «Надзеі».

За высокія паказчыкі ў гэтых накірунках Дыплом першай ступені атрымаў дзіцячы рэабілітацыйна-аздараўленчы цэнтр «Надзея», што знаходзіцца каля вёскі Будзішча Вілейскага раёна.

«Надзею» прызналі лепшым цэнтрам у Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Пісьменнік і палітык Павел Севярынец прэзентуе свае кнігі ў Вілейцы

МАЛАДЗЕЧНА

24 лютага, у нядзелю, у 15:00 вілейчукоў запрашаюць на сустрэчу з Паўлам Севярынцам.

Імпрэзу зладзяць па адрасе: Партызанская, 45-а.

Вас чакае прыемная размова і прэзентацыя кніг Паўла Севярынца «Каменнае сэрца», «Люблю Беларусь», «Беларусалім».

Уваход вольны!.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вучні і настаўнікі перамаглі ў абласным конкурсе «Энергамарафон»

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

На конкурс прадставілі праекты з практычнымі прапановамі па эфектыўным і рацыянальным выкарыстанні энергарэсурсаў у школах і ў быце, рэкламныя ролікі, плакаты. Сярод пераможцаў – настаўнікі з Ілы і Вілейкі, а таксама школьнікі з Маладзечна, Вілейкі, Ілы, Турэц-Баяраў.

У намінацыі «Праект практычных мерапрыемстваў па энергазберажэнні» другое месца заняў вучань 9 класа вілейскай гімназіі «Логас» **Уладзімір Гатоўка**. Кіраўнік – **Яўген Мароз**.

У намінацыі «Відэаролік» першай стала вучаніца 4 класа **Сафія Летка** з вілейскай пачатковай школы №6. Кіраўнік – **Людміла Кузняцова**. А на трэцім месцы – трэцякласніца **Станіслава Радавановіч** з Ільянскай сярэдняй школы імя Грымача. Кіраўнік – **Алена Міхалёнак**.

У намінацыі «Плакат» дыплом другой ступені атрымала маладзечанка **Соф'я Корзун**, дзявяцікласніца з гімназіі №10. Кіраўнік – **Алена Сербіна**.

У намінацыі «Малюнак» трэцяе месца ў дзявяцікласніцы **Арыны Юрэвіч** з Турэц-Баяраў. Кіраўнік – **Уладзіслаў Рудкевіч**.

У намінацыі «Сістэма адукацыйнага працэсу і інфармацыйна-прапагандысцкай працы ў галіне энергазберажэння «у школе» на першым месцы намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце з ільянскай школы **Алена Міхалёнак**, на трэцім – творчая група настаўнікаў з першай школы Вілейкі.

**Паводле Упраўлення адукацыі Мінаблвыканкама.**



У інтэрнаце на Янкі Купалы ў Маладзечне людзі цяпер жывуць па бестэрміновых дагаворах.

# Праваабаронца дапамог жыхарам інтэрната адстаяць свае правы

**«Там, дзе не здолелі разабрацца ўладныя структуры і народныя абраннікі, нам дапамог сябра Беларускага Хельсінскага камітэта Эдуард Баланчук» – з такой заявай звярнуліся ў «Рэгіянальную газету» жыхары інтэрната па вуліцы Янкі Купалы, 126, што ў Маладзечне.**

МАЛАДЗЕЧНА

Эдуард Баланчук дапамог гэтым людзям адстаяць права на бестэрміновы дагавор найму пакою ў інтэрнаце.

### Пагражалі высяленнем

Да 2014 года, пакуль інтэрнат належаў ЗПМ, у жыхароў былі дагаворы на бестэрміновай аснове, заключаныя яшчэ ў 2009. Дагаворы зарэгістравалі ў Маладзечанскім райвыканкаме.

Праблемы пачаліся пасля перадачы інтэрната «Камунальніку». У 2016 годзе новы ўласнік разам з прафкамам прадпрыемства вырашылі, што памяшканні не могуць давацца на бестэрміновай аснове і прапанавалі заключыць дадатковае пагадненне на пяць гадоў. У адваротным выпадку пагражалі высяленнем.

Адміністрацыя «Камунальніка» спасылалася на Палажэнне аб інтэрнатах ад 5 красавіка 2013 года №269, згодна з якім арэнда жылога памяшкання ў інтэрнаце без указання тэрміну або бестэрміновa не прадугледжаная.

Не ўсе пагадзіліся падпісваць дадатковыя пагадненні. Некаторыя палічылі гэта парушэннем сваіх правоў.

– Людзей можна зразумець, – лічыць Эдуард. – Часовы характар жыллёвых адносінаў – гэта, у першую чаргу, нявызначанасць. Па артыкуле 60 Жыллёвага кодэкса дагавор найму жылога памяшкання, заключаны на вызначаны тэрмін, заканчваецца з завяршэннем тэрміну. Бестэрміновы дагавор гарантуе людзям, што іх не выселяць на вуліцу.

Тады кіраўніцтва «Камунальніка» вырашыла ў судовым парадку прымусіць траіх наймальнікаў заключыць дадатковыя пагадненні і накіравала позвы ў суд. Калі б «Камунальнік» гэты суд выйграў, дагаворы з вызначаным тэрмінам перазаключылі б з іншымі 35 арандатарамі. Пад ціскам адміністрацыі і страхам перад судом некаторыя ўсё ж падпісалі дадатковыя пагадненні.

– Права на жыллё прадугледжвае Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, ратыфікаваны Беларуссю. Згодна з дакументам, удзельнікі пакта прызнаюць права кожнага на дастатковы жыццёвы ўзровень яго і яго сям'і. Дастатковы жыццёвы ўзровень уключае дастатковае харчаванне, адзенне, жыллё і бесперапыннае паляпшэнне ўмоў жыцця.

### Змяніць дагавор найму жылля ў аднабаковым парадку нельга

Калі жыхары інтэрната звярнуліся па дапамогу да Эдуарда Баланчука, той кансультаваў людзей, накіроўваў іх да дэпутатаў, у пракуратуру, у прафсаюз, выступаў у судах як прадстаўнік грамадскасці і гаварыў, што лічыць па гэтай справе Беларускі Хельсінскі камітэт.

На думку Эдуарда, змяніць дагавор найму на жыллё можна толькі са згоды абодвух бакоў. Прымус у падпісанні дагавора недапушчальны за выключэннем тых выпадкаў, калі абавязак заключыць дагавор прадугледжаны заканадаўствам або прыняты добраахвотна. Пры гэтым ісцец не прывёў ніводнага доваду, чаму жыхары інтэрната павінны заключаць дадатковае пагадненне, кажа Эдуард і тлумачыць.

Летась у жніўні суд Маладзечанскага раёна адмовіў «Камунальніку». Аспрэчванне рашэння ў вышэйшай інстанцыі таксама не дало вынікаў. У кастрычніку Мінскі абласны суд пакінуў рашэнне Маладзечанскага суда без змен і жыхары захавалі права бестэрміновага найму жылля.

### Што рабіць людзям, якія апынуліся ў падобнай сітуацыі

Парады далі ў Беларускім Хельсінскім камітэце:

- не верыць адразу чыноўнікам і нічога не падпісваць
- аб'ядноцца з суседзямі
- звярнуцца да адвакатаў і праваабаронцаў
- улічыць, што ніводны дакумент не забараняе бестэрміновы найм жылля
- калі пачынаюцца пагрозы і незаконныя дзеянні, звяртацца ў суд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

*Матэрыял створаны ў рамках сумеснай ініцыятывы Офіса еўрапейскай экспертызы і камунікацый, CityDog.by, vitebsk4.me, часопіса «Бінокль» і «РГ».*



Інфаграфіка «РГ».

# Як выжывае сям’я пенсіянераў

**Пра даходы і выдаткі мы распыталі ў чарговага героя.**

Наш суразмоўца жыве на Маладзечаншчыне разам з жонкай. Абодва яны пенсіянеры. Штомесячны даход маюць 700 рублёў.

### На што ідуць грошы

У першую чаргу грошы ідуць на абавязковыя траты – аплату камунальных паслуг, інтэрнэта і тэлефонаў. Агулам гэтыя выдаткі патрабуюць 130 рублёў.

Не абысціся людзям ва ўзросце без лекаў і выдаткаў на медыцынскае абслугоўванне. Гэта графа расходаў стаіць адразу пасля камунальных. І штомесяц патрабуе ад мужа і жонкі каля 100 рублёў.

Не абысціся і без гігіенічных касметычных і мыйных сродкаў. На іх сям’я аддае прыкладна 25 рублёў.

Гаспадар мае машыну. Толькі на паліва для яе сыходзіць 75 рублёў.

Астатнія грошы ідуць на прадукты. На харчаванне трэба не менш за 350 рублёў.

### Ці хапае пенсіі?

Наш герой адзначае:

– Самі бачыце, пенсій хапае толькі на самыя галоўныя выдаткі.

Аднак рэальных патрэбаў нашмат болей. Грошы трэба, каб рамантаваць кватэру, аўтамабіль. Ды і самы сціплы гардэроб час ад часу неабходна абнаўляць. Даводзіцца траціцца на расходныя матэрыялы. І ніхто не застрахаваны ад непрадбачаных выдаткаў.

**На ўсё гэта патрабуецца яшчэ прыкладна такая ж сума. Але дзе яе ўзяць?**

Дык як жа выжыць?

– Даводзіцца раздабываць сродкі нестабільнымі выпадковымі заробкамі, – дзеліцца герой публікацыі.

Для таго, каб выжываць, даводзіцца шукаць розныя магчымасці.

Летам дапамагае падсілкоўвацца агарод і дары лесу – ягады і грыбы. Гаспадар займаецца пчоламі. Лішкі мёду прадае, і гэта папаўняе сямейны бюджэт.

**Галоўная мудрасць гаспадароў, як трымацца на плыву, – гэта ніколі не лезці ў крэдыты. Аднак і ў замежныя адпачынкі не выпадала ім выправіцца.**

– Усё лета «адпачываем» на сваім агародзе ды за вёскай у лесе, – іранізуе суразмоўца.

Заканчвае размову пенсіянер з гумарам:

– Так што жывём, як у бога за пазухай! Жывём, бо градкі памерці не дадуць!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Новыя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі: што мяняецца ад 1 сакавіка

**Ад 1 сакавіка ў Беларусі адмяняюцца ліміты на электраэнергію. Акрамя таго, па-іншаму будзе разлічвацца аплата за ваду, каналізацыю і тэхнічнае абслугоўванне дамоў.**

Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове Савета міністраў (№81 ад 9 лютага 2019 года).

Па новых тарыфах беларусы пачнуць аплачваць ЖКП у красавіку. У прыватнасці, тарыфы ўводзяцца для зарэгістраваных па месцы пражывання жыхароў кватэр і дамоў замест дыферэнцыраванай платы за тэхабслугоўванне дамоў, водазабеспячэння і водаадвядзення, а таксама электрычнасць.

Цяпер дапушчальныя тарыфы складаюць:

- тэхабслугоўванне – 0,1187 рубля за квадратны метр;
- водазабеспячэнне і каналізацыя – 0,8338 і 0,6383 рубля за кубаметр;
- электрычнасць для кватэр з газавымі плітамі – 0,1746 за 1 кВт/г; з электраплітамі – 0,1484 рубля.


Фота day.kyiv.ua.

Таксама па-новаму будуць плаціць за электраэнергію тыя, у каго ў кватэрах ці дамах устаноўленыя адпаведныя лічыльнікі, якія вызначаюць колькасць выдаткаванай электраэнергіі на ацяпленне і гарачую ваду. Гаворка ідзе пра беларусаў, якія не падключаныя да сістэмы цэнтралізаванага цепла- і газазабеспячэння. Цяпер яны плацяць 0,0335 рубля за 1 кВт/г.

У выпадку, калі арганізацыя няправільна разлічыла тарыф па якой-небудзь паслузе ЖКГ, можна будзе ажыццявіць паўторны разлік, аднак не пазней чым за тры месяцы, калі гэта звязанае з дадатковай аплатай за папярэднія перыяды.

Здымаць паказанні лічыльнікаў можна будзе як самастойна, так і дыстанцыйна.

**Паводле BELNOVOSTI.BY.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 14.02 | 21.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1571 | **2.1455** |
| Еўра | 2.4428 | **2.4349** |
| Злоты, 10 | 5.6387 | **5.6135** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2832 | **3.2610** |
| Грыўня, 100 | 7.9578 | **7.9247** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 13.02 | 20.02 |
| Еўра | 2.4300/2.4490 | **2.4250/2.4420** |
| Долар ЗША | 2.1450/2.1610 | **2.1400/2.1580** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 13.02 | 20.02 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,45 | **19,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,85 | **3,80** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,21 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,20 | **5,40** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,15 | **1,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 4,80 | **3,90** |
| Баклажаны, 1 кг | 8,80 | **8,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Капуста, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,99 | **1,95** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Памідоры, 1 кг | 5,50 | **2,90** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,80 | **5,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,79 | **2,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,30 | **4,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкія арэхі, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## У супермаркеце пакупнікі забралі згублены кашалёк. Цяпер іх шукае міліцыя

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 17 лютага каля 11 гадзін.

Пенсіянерка з Пінска, што адпачывае на Маладзечаншчыне ў санаторыі, зайшла ў краму. Яна і не заўважыла, як яе кашалёк упаў на падлогу. Але гэта заўважылі мужчына і жанчына, якія зайшлі ў краму за пенсіянеркай.

Жанчына паказала спадарожніку кашалёк, той падштурхнуў яго нагой і паклаў у кішэнь. Пра знаходку нікому не сказалі. У кашальку былі грошы і банкаўская картка. Здарэнне зафіксавала камера відэаназірання.

Цяпер фігурантаў шукае маладзечанская міліцыя.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Мужчынам, што вывезлі ў лес знаёмых, суд вынес прысуд

**МЯДЗЕЛ**

Да шасці гадоў пазбаўлення волі прыгаварылі жыхара Мядзельскага раёна. Яго прызналі вінаватым у тым, што ён разам са знаёмым вывез двух мужчын у лес, дзе ахвяр катавалі, а аднаго прывязалі да машыны і цягалі па зямлі. Пра прысуд паведамляе прэс-служба суда.

Па версіі следства, у ліпені пад Мядзелам двое мужчын наладзілі разборкі з-за нібыта выкрадзеных 50 рублёў. Пасля застолля яны палічылі, што не хапае грошай – і падазрэнне пала на двух пячнікоў, якія рабілі рамонт у іх доме напярэдадні.

Падазраваных адшукалі мужчын, сілай пасадзілі ў машыну і вывезлі ў лес каля вёскі Азаркі. Там збівалі, патрабавалі грошы, а потым прывязалі аднаго да машыны і валаклі па дарозе каля 700 метраў. Ахвяры змаглі збегчы, адзін з іх трапіў у бальніцу з чэрапна-мазгавой траўмай, пераломамі і ранамі.

Справа дайшла да суда. Але так як адзін з фігурантаў за гэты час памёр, за тое, што адбылося, прыйшлося адказваць другому ўдзельніку.

Мужчыну абвінавачвалі па артыкулах аб катаванні і незаконным пазбаўленні волі. Усё гэта, па дадзеных са справы, ён здзейсніў будучы п'яным. Суд прысудзіў абвінавачанага да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і штрафу ў 100 базавых велічынаў (2550 рублёў). Прысуд яшчэ не ўступіў у сілу і можа быць абскарджаны.

**Паводле TUT.BY.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Міліцыя шукае саракагадовага маладзечанца

**МАЛАДЗЕЧНА**



Маладзечанскі РАУС шукае **Вячаслава Клімантовіча** 1979 года нараджэння.

Мужчына пайшоў з дому і да сённяшняга дня невядома, дзе ён.

Прыкметы: на выгляд 39-40 гадоў, рост 170-175 сантыметраў, худы, з бледным круглым тварам, карымі вачыма, цёмна-русымі хвалістымі валасамі, сярэднія вушы і нос.

Маладзечанская міліцыя просіць грамадзян, якія нешта ведаюць пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць па тэлефонах: 8-0176-749683, 8-0176-770312, 8-0176-771656 або «102».

**Аддзел інфармацыі.**

## Запрашаем на службу ў органы ўнутраных спраў

Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце запрашае ў органы ўнутраных спраў кандыдатаў ва ўзросце ад 18 да 25 год на пасаду міліцыянера аддзялення патрульна-паставой службы.

Заработная плата ад 700 рублёў.

Перавага аддаецца асобам, якія прайшлі тэрміновую службу ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь. Графік працы па 12 гадзін (дзень, ноч, два выхадныя).

• Магчымасць бясплатнага навучання ва ўстановах адукацыі сістэмы МУС Рэспублікі Беларусь.

• Ведамасная чарга на будаўніцтва жылля.

• Бясплатнае абслугоўванне ў ведамаснай паліклініцы.

• Бясплатнае наведванне спартыўнай залы, басейна.

Кантактны тэлефон: (8029) 7748814.

**Андрэй ХРАЛОВІЧ,**
**часовы выканальнік абавязкаў начальніка аддзялення, маёр міліцыі.**





**Вагончык, у якім адбылося забойства.**

# Справу пра забойства 28-гадовага жыхара Вілейшчыны перадалі ў суд

**ВІЛЕЙКА**

**Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» расказаў намеснік пракурора Вілейскага раёна Андрэй Жукоўскі.**

Летась у лістападзе мы пісалі пра тое, што раніцай 11 лістапада ў Карпавічах на Вілейшчыне ў бытавым вагончыку знайшлі двух мужчын з нажавымі раненнямі. Смерць 28-гадовага мясцовага жыхараканстатавалі на месцы. 55-гадовага параненага мужчыну забралі ў рэанімацыю.

Як распавяла тады **Таццяна Беланог**, перад здарэннем мужчыны выпівалі ў бытавым вагончыку, які стаяў на тэрыторыі сваяка загінулага. Узнікла сварка, якая скончылася бойкай. Мужчыны паранілі адзін аднаго нажом.

Адразу распачалі крымінальную справу. Цяпер Вілейскі РАСК скончыў расследаванне і справу перадалі ў суд. Дзеянні фігуранта кваліфікавалі як забойства.

– Ад 2016 года ўсе забойствы на Вілейшчыне здзяйсняюць людзі выключна ў стане алкагольнага ап'янення, у такім стане быў і фігурант у Карпавічах, – расказаў карэспандэнту **Андрэй Жукоўскі**. – Злачынства ў п'яным выглядзе з'яўляецца абцяжарваючымі абставінамі і прадугледжвае павышаную адказнасць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Інспектары ДАІ манітораць дарогі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад 15 да 24 лютага дзяржаўтаінспекцыя праводзіць рэспубліканскую прафілактычную акцыю «Зробім дарогу больш бяспечнай!».

Падчас мерапрыемства праведуць рэйды па апрацоўцы ў «гадзіны пік», праверацца нерэгулюемыя пешаходныя пераходы, участкі дарог, дзе найбольшая рызыка наехаць на пешаходаў.

Паважаныя бацькі! Абавязкова праверце, ці ёсць хаця б па адным флікеры на партфелі і куртцы вашага дзіцяці. Нагадвайце юным удзельнікам дарожнага руху асноўныя правілы паводзін на дарозе.

Пешаход, які ў цёмны час сутак ідзе па дарозе без флікера, атрымае штраф ад адной да трох базавых велічынь. Гэта ад 25,50 да 76,50 рубля.

Калі гэта пацягнула за сабой аварыйную сітуацыю, штраф складзе ад трох да васьмі базавых – ад 76,50 да 204 рублёў.

Калі на дарозе нецвярозы пешаход, ён можа атрымаць штраф ад трох да пяці базавых (ад 76,50 да 127,50 рубля).

Калі парушэнне правілаў дарожнага руху прывяло да пашкоджанняў чалавека або маёмасці ці калі віноўнік збег з месца здарэння, то яго чакае штраф ад 5 да 20 базавых (ад 127,50 да 510 рублёў).

Калі вы заўважылі нецвярозых пешаходаў ля дарогі, просім паведаміць па нумар (80176) 77-16-56 або 102.

**Сяргей БАРТОШ,**
**Маладзечанская ДАІ.**

## Медыкі будуць паведамляць міліцыі пра палавое жыццё школьніц да 16 гадоў

Пасля планавых медаглядаў медыкі будуць паведамляць у міліцыю пра палавое жыццё школьніц да 16 гадоў, паведаміў 15 лютага на калегіі галоўнага ўпраўлення адукацыі Мінаблвыканкама начальнік аддзела па супрацьдзеянні гандлю людзьмі УУС Мінаблвыканкама **Яўген Дубаневіч**.

Ён растлумачыў, што гэта робіцца для таго, каб выяўляць злачынствы супраць палавой недатыкальнасці непаўналетніх.

– Мы пастаянна вядзём дыскусіі з Міністэрствам аховы здароўя па гэтым пытанні і спрабуем выпрацаваць агульную пазіцыю. І дамагліся свайго ў частцы, што датычыцца медыцынскай таямніцы, – сказаў Дубаневіч. – Калі гаворка ідзе пра дзяўчынку 14-15 гадоў, то здзейсненае злачынства, і ўрачэбная таямніца тут не працуе.

Паводле яго слоў, медагляды дзяўчынак да 16 гадоў будуць праводзіць штогод. Калі высветліць, што маладая летняя мела палавую сувязь, гінеколаг абавязаны паведаміць пра гэта наўпрост начальніку мясцовага УУС.

Дзяўчынку накіруюць да медыцынскага псіхолага, які падрыхтуе яе да гутаркі са следчымі. «Тады ўжо будзем гаварыць з дзяўчынкай, пытацца, чаму гэта здарылася, з кім. Добра, калі гэта па каханні з хлопчыкам. Нікога яшчэ за гэта не пасадзілі. Але бываюць выпадкі, што дзяўчынка апынулася ахвярай гвалту. Яна ў сілу свайго ўзросту пабаялася пра гэта каму-небудзь расказаць», – растлумачыў Дубаневіч.

Ён адзначыў, што «пад адзін грэбень усіх часаць нельга, але па ўсіх выпадках правядуць праверку».

Дубаневіч параіў педагогам за гутаркай аб палавой недатыкальнасці і бяспецы «не праводзіць мяжу па палавой прыкмеце». «Статыстыка кажа, што хлопчыкі і дзяўчынкі становяцца ахвярамі педафілаў у роўнай ступені», – адзначыў прадстаўнік УУС.

**Паводле TUT.BY.**

# Як у Маладзечне робяць мэблю для Заходняй Еўропы і Паўночнай Амерыкі






Фота забяспечана «MMZ».





Вось такая мэбля ўпрыгожвае кватэры замежнікаў.

МАЛАДЗЕЧНА

**Вось ужо 30 год мэбля з Маладзечна аздабляе дамы і кватэры краін Еўропы, Амерыкі, Расіі, Казахстана. Ад 1989 – года свайго заснавання – кампанія «MMZ» працуе на экспарт.**

Аб'ём рынкаў збыту мяняецца. Летась большая частка прадукцыі пайшла ў Германію. У 1998-м 40% ішло ў Францыю.

Ад 2002 года маладзечанцы супрацоўнічаюць са шведскай кампаніяй IKEA. Праз яе крамы прадаюць сваю мэблю па ўсім свеце. IKEA звяртае вялікую ўвагу, каб падчас вытворчасці выконваліся ўсе экалагічныя патрабаванні.

### Як зарабіць на адходах і захаваць экалогію

Да экалогіі на «MMZ» ставяцца ашчадна. У свой час тут паўстала балючая праблема ўтылізацыі адходаў. На прадпрыемстве працуюць дзве лесапілкі – у Крупках і ў Ілы. Застаецца шмат шчэпак, пілавіння, кары. Трэба было вырашыць, як збываць усё гэта без шкоды для экалогіі і з карысцю для сябе.

У 1997 годзе на прадпрыемстве ў Маладзечне пабудавалі першую кацельню, якая працуе на шчэпках і пілавінні. А сёння адходамі вытворчасці ацяпляюць абедзве лесапілкі, а таксама адходы выкарыстоўваюць для розных тэхналагічных працэсаў на вытворчасці. Шчэпкі таксама пастаўляюць на ЦЭЦ у Жодзіна.

Больш за тое, у 2010 годзе на «MMZ» закупілі абсталяванне і сталі вырабляць пелеты, а ад 2015 – і брыкеты для ацяплення. Яны экалагічныя і вельмі добра аддаюць цяпло. Такое паліва з Маладзечна набываюць у Літву, Латвію, Чэхію, Італію. Цепляць ім і дамашнія каміны, і прамысловыя печкі.

### Чаму мэблю з Маладзечна любяць за мяжой

На «MMZ» працуюць з буйнымі пакупнікамі і робяць стаўкі на доўгатэрміновыя кантракты. Акрамя IKEA, у спісе партнёраў – нямецкая кампанія «Ота-каталог», фірмы з Аўстрыі, Францыі.

Мэблю на «MMZ» робяць выключна з масіву сасны. Драўніна мяккая і не вельмі дарагая. Таму замежнікі, якія прывыклі мяняць абстаноўку часцей, упадабалі мэблю з Маладзечна. А вось у Беларусі, дзе многія набываюць шафу або стол раз і назаўсёды, мэбля з сасны такога попыту не мае. Тут падавай ясень і дуб.

### Напрацавалі больш чым на 20 мільёнаў еўра

2018 год стаў асаблівым для маладзечанскай кампаніі. Летась упершыню яны зрабілі мэблі на 20 з паловай мільёнаў еўра.

Сыравіна для мэблі – беларуская, мае міжнародны сертыфікат. Фурнітуру і матэрыялы для аддзелкі выкарыстоўваюць замежныя, таксама сертыфікаваныя. Працуюць з лакамі на воднай аснове. Гэты экалагічны паказчык вельмі важны для замежных пакупнікоў.

Штогод тут з'яўляецца да двухсот новых мадэляў. Мэблю стараюцца выпускаць серыйна. Дарагое абсталяванне трэба доўга наладжваць, таму не асабліва хочацца гэта рабіць для невялікай колькасці мэблі. Кожны ўзор тут выпускаюць звычайна ў трох колерах.

Шмат укладаюць у абсталяванне, транспарт, лесапільную вытворчасць, утылізацыю адходаў. Разумеюць, каб канкураваць з іншымі падобнымі кампаніямі, трэба быць сучаснымі, удасканальвацца. На кожным станку – шмат электронікі. Дзе магчыма, працэсы аўтаматызуюць і памяншаюць ручную працу.

### Тут не возяць паветра

На «MMZ» ганарацца прадуманай лагістыкай. Мэблю робяць у разабраным выглядзе, каб выйграць на транспартаванні, не вазіць паветра. Аднак разабраная мэбля патрабуе высокай тэхналагічнай дакладнасці ад спецыялістаў, шматразовых кантрольных зборак падчас вытворчасці.

Калі кожны элемент пакуюць у кардонную каробку, звяртаюць увагу на вагу. Яна павінна быць такая, каб змог падняць адзін чалавек. У Паўночную Амерыку, Кітай мэбля з Маладзечна едзе кантэйнерамі, у Заходнюю Еўропу – на фурах.

У кампаніі працуе больш за тысячу сто чалавек. 190 – на лесапілках, астатнія – у Маладзечне. Асаблівай цякучкі няма, бо кампанія працуе стабільна і работнікі атрымліваюць добры заробак.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**

● КАЛЯНДАР

23 ЛЮТАГА

**1907.** Нарадзіўся **Станіслаў Станкевіч** (в. Арляняты, цяпер Смаргонскі раён), беларускі літаратуразнаўца, грамадска-культурны дзеяч, публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Германіі і ЗША. Паходзіць з роду Станкевічаў, ягоны родны дзядзька па матчынай лініі – **Янка Станкевіч** – з'яўляўся адным з найбуйнейшых беларускіх моваведаў.

**1928.** У Вільні пачаўся так званы «працэс 56-ці» – суд, арганізаваны польскай уладай над дзеячамі БСРГ.

**1944.** Генеральны камісар акупаванай немцамі Беларусі даў дазвол на арганізацыю Беларускай Краёвай Абароны.

**1919.** У Маскве Беларускі нацыянальны камісарыят і Маскоўская беларуская секцыя РКП(б) стварылі асветны клуб «Беларус».

**1766.** У Францыі памёр **Станіслаў Ляшчынскі**, кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь літоўскі (1704-1709 гг., 1733 г.). Нарадзіўся 20 кастрычніка 1677 года.

24 ЛЮТАГА

**1839.** Адбыўся Полацкі царкоўны сабор, які ліквідаваў уніяцкую царкву на Беларусі.

**1922.** Памёр **Ядвігін Ш.** (сапр. **Антон Лявіцкі**), беларускі пісьменнік, літаратуразнаўца, драматург, паэт, грамадскі дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні. Сёлета 4 студзеня яму было 150 гадоў з дня нараджэння (1869). У 1870-х гадах бацька яго быў ляснічым графа Тышкевіча і жыў у Пяршаях цяперашняга Валожынскага раёна. Неўзабаве сям'я Лявіцкіх пераехала ў Карпілаўку пад Радашкавічамі. Тут у 1877–1878 гг. ён вучыўся ў нелегальнай школе ў Люцінцы, якую арганізавала дачка Дуніна-Марцінкевіча **Каміла.**

25 ЛЮТАГА

**1909.** 110 гадоў назад нарадзіўся **Сяргей Дарожны** (сапр. **Серада**), пісьменнік, перакладчык, грамадскі і культурны дзеяч.

**1959.** 60 гадоў назад у Вільні памёр **Клаўдзій Дуж-Душэўскі**, беларускі палітычны дзеяч, дыпламат, рэдактар, педагог. Лічыцца аўтарам бел-чырвона-белага сцяга.

26 ЛЮТАГА

**1928.** У Мінску створаны Камітэт абароны Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады на чале з **Янкам Купалам**.

27 ЛЮТАГА

**1919.** 100 гадоў назад быў створаны ўрад Літоўска-Беларускай ССР са сталіцай у Вільні.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● ПАМІЖ КАМУНІСТАМІ І ФАШЫСТАМІ

# «Садралі пазногці і павыдзіралі валасы»

## Якім было жыццё ў ваенны час у ваколіцах Веркаўлянаў. Частка 5

*Заканчэнне. Пачатак у №№3, 4, 5, 6, 7.*

ВІЛЕЙКА

**Пасля арышту Феадосія галавой сямейства стала будучая свякруха Тамары Васілеўны Агата, жонка памерлага Пятра.**



Сяргей Жук, праўнук загінулага Ціхана Казакевіча.

Зіму перажылі без наездаў НКВДэшнікаў. Але радавацца доўга не давялося. У пачатку вясны ўсіх веркаўлянцаў папярэдзілі, каб рыхтаваліся да перасялення ў паўночную частку СССР. Сянько і Казакевічы гэта паведамленне ўспрынялі не інакш як дзікунствам. Навіна хутка разляцелася па наваколлі. Адны ставіліся да яе са спагадай, а іншыя зларадствавалі. Даходзіла нават да нахабнасці.

### Жыжаед

Аднойчы, пачуўшы пра дэпартацыю нашых герояў, да іх прыйшоў чалавек з суседняй вёскі і пытаецца ў Агаты:

– Слухай, Агатка, мне сельсавет дазволіў забраць у цябе адну кароўку. Якую б ты мне параіла, каб малака больш мець і з большай тлустасцю?

Агата ледзь стрымалася ад пачутага. Але хутка знайшлася, што адказаць:

– Пачакай, даражэнькі Ігнаська, толькі што адну якраз падаіла. Ды самую тлустую, быццам бы ведала, што завітаеш. Пачакай, зараз малачко пакаштаваць прынясу.



**І пайшла ў кароўнік. А там начэрпала паўдайніцы жыжы з-пад каровы, хуценька вярнулася назад і сходу тую дайніцу з жыжай адзела на галаву нахабніку Ігнаську. З тае пары мянушка Жыжаед прыляпілася да яго на ўсё жыццё.**

Падсмейваліся з яго за той выпадак яшчэ доўга пасля вайны. Ігнаська ж, «пасмакаваўшы малачка», збег з падворка, каб не атрымаць яшчэ і па баках ад ужо падрослых Агаціных хлопцаў.

### У чаканні дэпартацыі

Кожны дзень праходзіў у трывозе і чаканні наступнага дня. Скончыўся красавік, а ніхто не чапае і не прыязджае. Розныя думкі разрывалі галовы. А можа, дэпартацыю адмянілі ды забыліся паведаміць? Наступіў май, час сяўбы, а зямля некранутая ні ў Агаты, ні ў Казакевічаў. Сялянскія душы баляць, рукі без працы ажно выкручвае. Сабраліся разам, параіліся і вырашылі, што будзе, тое й будзе! Коні ёсць, збожжа ёсць – будзем сеяць! Не нам, дык людзям застанецца!

І не памыліліся. Так кожны дзень пад страхам дажылі да 22 чэрвеня, калі пачалася вайна. Для веркаўлянцаў, з аднога боку, гэты дзень быў радасны як вызваленчы ад дэпартацыі, а з іншага, страшны і жудасны перад невядомай вайной.

Вайну сям'я Агаты, у адрозненне ад суседзяў, перажыла без страты родных, бо хаваліся ў лесе.

### Расправа над Казакевічамі

Хата згарэла, калі немцы ўчынілі расправу над **Ціханам Казакевічам** і ягонай сям'ёй. Хтосьці данёс немцам, што муж яго ўнучкі **Анюты**, **Васіль Жук** з Карпавічаў, знаходзіцца ў партызанах. Гэта і паслужыла падставай для расправы. Васіль сышоў у партызаны ўзімку 1942-га і адразу знік. Не ўдавалася даведацца пра яго лёс нават ад тых партызанаў-луніцаў, з якімі ён сышоў у лес.

Іх атрад стаяў недалёка ў лесе за Лоўцавічамі, і таму яны былі частымі «гасцямі» на фальварку. Іх нахабнасць, нямецкая пагроза, а яшчэ загадкавае забойства старэйшага сына гаспадара фальварка Івана прымусіла ягоную жонку Марыльку ўцякаць з Веркаўлянаў.

Івана хтосьці забіў пад Раёўкай на мосце праз Шчарку, калі той ішоў абмяняць харчы на соль. Пасля гэтага Марылька са старэйшай дачкой, Анютай, жонкай зніклага Васіля, і малодшай дачкой на выданні, Ірынай, сышлі да сваіх бацькоў у Мясату. Туды партызаны не дабіраліся. Хаваліся ўжо толькі ад паліцаяў ды немцаў, каб не патрапіць на катаргу ў Германію. Сышлі з фальварка своечасова.

Вясной 1943 года Ціхана Казакевіча, яго жонку Стэпку і хваравітага сына Паўлюка жыўцом спаліла ў іх жа хаце зондэркаманда. Праз некалькі дзён, калі блакада скончылася і на фальварку ўсё сціхла, родныя і знаёмыя Казакевічаў сабралі парэшткі загінулых і пахавалі на месцы іх гібелі.



**Пасля вайны ўсталявалі на іх магілцы каплічку, якая і сёння нам нагадвае пра тую веркаўлянскую трагедыю. Каплічку цяпер даглядаюць прапраўнукі Ціхана Казакевіча, Васіль і Сяргей Жукі, і прапраўнучка Вольга з Мінска, якая пабудавала тут лецішча.**

На жаль, кніга «ПАМЯЦЬ» не ўтрымлівае ніякіх звестак пра гэтых трагічна загінулых жыхароў Вілейшчыны з фальварка Веркаўляны. Гэта:

Казакевіч Ціхан Іванавіч, 187? г.н.

Казакевіч Стэпа, 187? г.н.

Казакевіч Іван Янавіч, 1900 г.н.

Казакевіч Павел Янавіч, 190? г.н.

Жук Васіль, 1920 г.н.

(Дадзеныя па гадах нараджэння могуць быць недакладныя).

### Калгас

Пасля вайны веркаўлянцы вярнуліся дадому. Але ўся іх зямля, коні і рэчы, што належалі ім, адышлі пад калгас. Як і самі былыя гаспадары. Працавалі, як і ўсе сяляне, за калгасную «валюту» – працадзень. Каб апрацаваць выдзеленыя для існавання сям'і 60 сотак зямлі, трэба было ісці на паклон да старшыні. Каб той дазволіў пакарыстацца адабраным уладай сваім жа канём.

А калі сабраліся адбудаваць наноў спаленыя фашыстамі дамы і скарыстаць матэрыял з уцалелых на водшыбе сваіх свірнаў, старшыня загадаў іх выкупляць у калгасе. На пытанне «А як гэта так? Ён жа наш!» той адказаў: «А вось так! Зямля цяпер калгасная? Калгасная! Значыць, і ўсё, што на ёй знаходзіцца, таксама належыць калгасу. У тым ліку і вы самі, а не тое што нейкія там свірны. А што ж вы думалі? Гэта вам не пры Польшчы вароты кілбасамі завязваць! Гэта калгас, даражэнькія, калгас!».

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

● ПАКУЛЬ ІДЗЕ РЭКЛАМА

# Змяя

## Як вы адносіцеся да сваіх ворагаў



З кнігі «Сто графічных тэстаў»

**На гэтым рысунку вы бачыце прамавугольнік, у якім па дыяганалі размясцілася змея. Вам трэба дарысаваць карціну, надаць ёй закончаны выгляд.**

**Ключ да тэста**

• **Калі вы ЯРКА ВЫДЗЕЛІЛІ РАМКУ, некалькі разоў АБВЯЛІ ЯЕ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы не задумваецеся аб тым, ці ёсць у вас ворагі і ці шмат іх. Калі вы ведаеце іх і не можаце ігнараваць іх існаванне, то, прынамсі, стараецеся не прыніжацца да адкрытых скандалаў і лаянак. Вы ведзяце сябе з ворагамі падкрэслена стрымана.

• **Калі вы АБВЯЛІ ЗМЯЮ АБО ДАРЫСАВАЛІ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІХ,** то гэта гаворыць аб вашым жаданні заўсёды і ва ўсім дамагацца яснасці, і адносіны з ворагамі не выключэнне. Вы не пагрэбуеце прамой сутычкай, сваркай і нават бойкай, калі гэта дапаможа вам разабрацца з вашымі ворагамі. Вы лічыце, што зусім не важна, якімі сродкамі вы атрымаеце перамогу, калі ваш вораг будзе пераможаны і зняважаны вамі. Ваш жыццёвы прынцып – ісці наперад, не пакідаючы дзеяздольных ворагаў у сябе за спіной (ворага трэба абясшкодзіць).

• **Калі вы НАРЫСАВАЛІ ЗМЯЮ Ў АКВАРЫУМЕ,** то гэта значыць, што вы ставіцеся да сваіх ворагаў па-філасофску. Вы прызнаеце за імі права на адмоўнае стаўленне да вас, вы разумееце, што ўсім падабацца немагчыма, ды і не жадаеце гэтага. Вы не жадаеце ўступаць са сваімі ворагамі ў адкрытую сутычку, але калі вас да гэтага вымусяць, то вы не адступіце. Вы будзеце да апошняга адстойваць свае інтарэсы і перакананні і будзеце вельмі рады, калі вашы ворагі прызнаюць вашу правату. Вы не крыважэрныя і цалкам дапускаеце думку, што ўчарашні вораг можа сёння стаць сябрам.

• **Калі вы НАРЫСАВАЛІ ВОДАРАСЦІ ЦІ ТРАВУ ВАКОЛ ЗМЯІ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы баіцеся сваіх ворагаў, іх падкопаў і нагавору. Вы ўвесь час чакаеце ад іх гадасцяў і не можаце супакоіцца, ведаючы, што недзе існуюць вашы ворагі. Вы занадта нервуецеся з гэтай прычыны, вы гатовыя бачыць ворагаў ва ўсіх, хто зробіць вам заўвагу або папраўіць вас. Вы самі сябе заганяеце ў кут.

• **Калі вы ПАСАДЗІЛІ ЗМЯЮ Ў КЛЕТКУ,** то гэта значыць, што вы не толькі не баіцеся сваіх ворагаў, але нават наўмысна правакуеце іх на бурныя сваркі і скандалы. Вам падабаецца зноў і зноў перамагаць сваіх нядобразычліўцаў, выходзіць пераможцам з сутычкі з імі.

• **Калі вы ЗАФАРБАВАЛІ УВЕСЬ ПРАМАВУГОЛЬНІК, пакінуўшы ЗМЯЮ НЕЗАФАРБАВАНАЙ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы самі вінаватыя ў наяўнасці ў вас ворагаў. Гэта ваша зайздрасць прымушае вас абвастраць адносіны з людзьмі.



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 25 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.50** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ЭЛВИН И БУРУНДУКИ».**
**8.50** Д/с «Родовые проклятья».
**9.20, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.15** Х/ф **«БЕЛЫЕ РОСЫ».**
**11.45** Х/ф **«НА ЧЕРНЫХ ЛЯДАХ».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.55** Х/ф **«ПРОКЛЯТИЕ ЗОЛОТОГО ЦВЕТКА».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«НАПРАСНАЯ ЖЕРТВА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ГАННИБАЛ».**
**23.25** Х/ф **«ТРУДНЫЙ РЕБЕНОК».**

**ВТОРНИК, 26 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 1.05** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«БЛЕФ».**
**9.15** Д/с «Дорога в школу».
**9.40, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ ОБМАНА».**
**13.05, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**14.00** Х/ф **«КОЛЕСО ФОРТУНЫ».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.25** Х/ф **«ЛЮДИ В ЧЕРНОМ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МИР ЮРСКОГО ПЕРИОДА».**
**23.10** Х/ф **«МУЖЧИНЫ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**

**СРЕДА, 27 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**9.05** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«МИР ЮРСКОГО ПЕРИОДА».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.50** Х/ф **«БРИДЖЕТ ДЖОНС».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«ПЕРВОПРОХОДЦЫ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МИСТЕРИУМ. НАЧАЛО».**
**22.50** Х/ф **«НЕВОЗМОЖНОЕ».**

**ЧЕТВЕРГ, 28 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 19.00, 21.00, 1.15** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПЕРВОПРОХОДЦЫ».**
**9.05** Д/с «Путешественник».
**9.35, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Рисуя Китай».
**11.00** Х/ф **«МИСТЕРИУМ. НАЧАЛО».**
**12.50, 20.05** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.40** Х/ф **«ЛЮДИ Х».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** «Мой любимый питомец».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.50** «Фешн is my професшн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ЦВЕТЫ ВОЙНЫ».**
**23.30** Х/ф **«ОБОЛЬСТИТЕЛЬ».**

**ПЯТНИЦА, 1 МАРТА**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.00, 0.55** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ПАДДИНГТОНА».**
**9.00, 16.30** Д/с «Путешествие по городам с историей».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**11.00** Мистический детектив «Экстрасенсы».
**12.45, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.30** Х/ф **«ПИРАТЫ КАРИБСКОГО МОРЯ».**
**16.05** «Мульт-парад».
**17.00** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.45** «Китайский Новый год».
**18.30** «Мой любимый питомец».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«МОСКВА, Я ТЕРПЛЮ ТЕБЯ».**
**22.40** Х/ф **«ЛЮДИ Х».**

**СУББОТА, 2 МАРТА**

**7.00, 18.55, 21.15, 0.10** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Дикая природа».
**8.00** Мультфильмы «Иван царевич и серый волк».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Искусство-кино «Отец невесты» 1-2 ч.
**13.00** Х/ф **«МОСКВА, Я ТЕРПЛЮ ТЕБЯ».**
**14.35** «Отвечайка».
**14.40** «Смотрим всей семьей». Мультфильм «Союз зверей».
**16.35** Х/ф **«БРИДЖЕТ ДЖОНС».**
**18.40** «Друзья дедушки Марко».
**19.00** Х/ф **«ЖИЗНЬ АДАЛИН».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my професшн».
**21.20** Х/ф **«ШЕРЛОК ХОЛМС И ДОКТОР ВАТСОН».**
**23.35** Х/ф **«ПРИЛИЧНЫЕ ЛЮДИ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 МАРТА**

**7.00, 15.55, 19.00, 20.55, 23.50** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Дикая природа».
**8.00** Мультфильмы «Корпорация монстров».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Китайский Новый год».
**10.30** Т/с **«БЕЗ СРОКА ДАВНОСТИ».**
**12.15** Х/ф **«УБИЙСТВО В ВОСТОЧНОМ ЭКСПРЕССЕ».**
**14.25** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ «Ы» И ДРУГИЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ШУРИКА».**
**16.00** «Смотрим всей семьей». «Зачарованная».
**17.55** «Отвечайка».
**18.00** «Друзья дедушки Марко».
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**
**20.45** «Вечарніца».
**21.00** Х/ф **«В ТЕНИ ПАЛЬМ».**

## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 25 ФЕВРАЛЯ**

**6.40** Х/ф **«ТВОЙ ВЫХОД, ДЕТКА!».**
**8.35** Х/ф **«СПАСИБО ЗА ОБМЕН».**
**10.45** Х/ф **«НЕПРАВИЛЬНЫЕ КОПЫ».**
**12.20** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**14.05** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 2».**
**15.55** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ 3».**
**17.30, 19.20, 22.20** Мажорный лад.
**18.40** Новости БЖД.
**18.50, 19.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**

**ВТОРНИК, 26 ФЕВРАЛЯ**

**6.40, 7.15, 8.25** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15, 18.40, 21.50** Афиша.
**8.35** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**10.15** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ! 2».**
**11.55** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ».**
**13.50** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**15.45** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**17.40, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Мая Радзіма.
**20.20** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**

**СРЕДА, 27 ФЕВРАЛЯ**

**6.25** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.35** Х/ф **«НЕПРАВИЛЬНЫЕ КОПЫ».**
**10.10** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**
**11.55** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**13.50** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**16.05** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ».**
**17.50, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 28 ФЕВРАЛЯ**

**6.45, 7.20** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Новости БЖД.
**8.20** Х/ф **«ХОЗЯЙКА «БЕЛЫХ НОЧЕЙ».**
**10.20** Х/ф **«ПРАВИЛА ЖИЗНИ ФРАНЦУЗСКОГО ПАРНЯ».**
**12.10** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ».**
**13.55** Х/ф **«СПАСИБО ЗА ОБМЕН».**
**16.05** Х/ф **«ЖЕНИХ».**
**17.50, 22.20** Мажорный лад.
**18.30** Мая Радзіма.
**19.20** Свет души. Костел Св. Иосифа.
**20.20** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**

**ПЯТНИЦА, 1 МАРТА**

**6.15, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**7.50** Мая Радзіма.
**10.05** Х/ф **«ТВОЙ ВЫХОД, ДЕТКА!».**
**12.00** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ».**
**13.50** Х/ф **«НАША RUSSIA. ЯЙЦА СУДЬБЫ».**
**15.30** Х/ф **«МАМА ДАРАГАЯ!».**
**17.15, 19.25, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 2 МАРТА**

**6.50, 8.40** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 17.40, 19.30** Мая Радзіма.
**8.30, 18.40, 19.50** Афиша.
**10.25** Х/ф **«ЧТО ТВОРЯТ МУЖЧИНЫ! 2».**
**12.00** Х/ф **«ЗАЖГИ ЭТИМ ЛЕТОМ».**
**13.50** Х/ф **«ЛЮБОВЬ И ЛИМОНЫ».**
**15.45** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА».**
**18.15, 21.10** Новости БЖД.
**20.30** Желаем вам.
**22.30** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 МАРТА**

**6.10** Х/ф **«М+Ж».**
**7.50** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ».**
**9.30** Х/ф **«ПЕРСОНАЖ».**
**11.40** Х/ф **«ИМЯ».**
**13.50** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**16.05** Х/ф **«НАША RUSSIA. ЯЙЦА СУДЬБЫ».**
**17.45** Х/ф **«ЖЕНИХ».**
**19.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**21.35** Х/ф **«КУХНЯ. ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**23.45** Х/ф **«ОПРОМЕТЧИВЫЙ».**

# Хто перамог у акцыі «Мая ластаўка»

**Ад 6 да 18 лютага на нашым сайце rh.by ахвотныя маглі прагаласаваць за свайго кандыдата.**

З вынікам 53% перамог удзельнік **Сяргей Дараховіч** з Хажова.

У акцыі ўдзельнічалі пяць чалавек. Тры з Маладзечаншчыны, адзін з Валожыншчыны і адзін з Вілейкі. Мы запрасілі іх расказаць пра сваю машыну і тое, як яе даводзілі да ідэальнага стану. Дзелімся з вамі гісторыямі ўдзельнікаў акцыі.

### Удзельнік №1 Арцём Бурачонак

Я – уладальнік «Вольвы S60». Удваіх мы ездзім па дарогах ужо тры гады.

Мая «шведка» – мой надзейны сябар і памочнік як у працоўных справах, так і ў бытавых.

Разам нам не страшныя ні паломкі, ні аварыі, ні складаныя ўмовы надвор'я.

Ёсць у маёй «Вольвы» і верны «абаронца» – пухнатая бірулька-талісман па імені Жора, які спраўна нясе службу на люстэрку задняга віду.

А акрамя Жоры і мяне, клапоціцца пра аўтамабіль мая дзяўчына Дыяна, якая мае вялікі досвед у сферы мыцця і хімчысткі аўтамабіляў. Таму з поўнай упэўненасцю можна сказаць, што мой жалезны конь акружаны клопатам з усіх магчымых бакоў!

### Удзельнік №2 Дзяніс Міцкевіч

«Фольксваген-Пасат» трэцяга пакалення – сапраўды народны аўтамабіль. У гэтым пераканаўся і я за гады, якія ім валодаю.

Гэты аўтамабіль у свой час стварылі інжынеры, а не маркетолагі, як цяпер.

Набываў як звычайны аўтамабіль для паўсядзённых паездак. Пасля вырашыў яго змяніць, і пачалася праца, якая расцягнулася на доўгі час і ў якой дапамагалі сябры.

Усяго, што было зроблена, у двух словах не апісаць, але коратка пра гэта. Аўтамабілю ўжо 27 гадоў, і зварачныя работы праводзілі там, дзе гэта патрабавалася.

Затым правялі шумавібраізаляцыю і ўстанавілі нядрэнную акустыку.

Далей аўтамабіль цалкам перафарбавалі, дадалі ксераліка, што надало незвычайны водблiск і пераліў на сонцы. У працэсе таксама агледзелі ўсе вузлы і механізмы. Усё, што не выклікала даверу, замянілі.

Перакруцілі практычна кожны болцік, вінцік і гаечку. Цяпер на аўто можна ехаць у любы пункт свету і не перажываць, што нешта адваліцца.

Устанавіў арыгінальныя фары Hella Black. Адразу адкажу на пытанне, якое часта задаюць: гэта не фары ад «БМВ». Гэта вельмі рэдкія фары ад «Пасата-Б3».

Іх выпусцілі не так шмат, серыйную вытворчасць даўно скончылі. А яшчэ я набыў і ўстанавіў шмат арыгінальных рэчаў, пра якія не кожны ўладальнік трэцяга «Пасата» ведае.

На пошукі ўсіх гэтых рэчаў выдаткаваў нямала часу і сродкаў. Нешта знайшоў Беларусі, нешта – за мяжой.

Таксама ў аўтамабіля з'явілася мноства функцый, якіх раней не было.

### Удзельнік №3 Яўген Рудкевіч

Імені ў машыны няма, называю проста па марцы «Пежо» – Пыжык.

Набыў тры гады таму. Паступова пачаў змяняць, зрабіў падсветку, захацелася нечага незвычайнага. Усё паяў сам. Кожны элемент займаў розны час. Гэта быў першы досвед. Людзі па-рознаму рэагуюць на «апгрэйд».

Грошай на абслугоўванне практычна не трачу – аўтамабіль не капрызны.

### Удзельнік №4 Сяргей Дрозд

У мяне «БМВ Е39». Набыў паўтара года таму. Такіх у краіне сотні, але мне «БМВ» падабаліся з пялюшак.

У яго два імені – Дранік і Булка. Не ведаю, чаму. У сябра такая ж машына, і ён таксама заве яе гэтымі імёнамі.

Шкада, што хутка прыйдзецца змяніць. У аварыях не была, але машына 2000 года выпуску, ёй 19 гадоў. Вядома, бываюць паломкі, «бабулька» ўжо.

Хаця гэта мадэль лічыцца лепшай сярод «БМВ» і на сёння адной з лепшых патрыманых аўто. Вядома, калі дагледжанае.

### Удзельнік №5 Сяргей Дараховіч

Хачу пазнаёміць усіх чытачоў з маім аўтамабілем «Фольксваген-Джэта» 1988 года выпуску. Аўтамабіль набыў больш за 10 гадоў таму. І тады я пачаў яе цюнінгаваць у пэўным стылі – «янгтаймер».

Знешне гэта стандартная машына, але ў ёй вельмі цікавае начынне.

Удзельнічаў у розных аўтафестывалях і злётах аматараў аўто. Заняў першае месца на фестывалі «Аўтапамочнік-2017» (Смаргонь) у сваёй намінацыі. Трапіў у топ-8 на фестывалі «Сан Дэй 2017» (Гродна). Удзельнічаў у іншых нацыянальных і замежных аўтафестывалях, дзе па вартасці ацанілі праведзеную працу над аўто.

Усе думаюць, што яна старая. Але ў ёй ёсць агеньчык. Гэты агеньчык стварыўся шмат гадоў асабіста мной у маім гаражы.




Фота забяспечанае Сяргеем ДАРАХОВІЧАМ.

**Аўтамабіль пераможцы акцыі «Мая ластаўка» Сяргея Дараховіча з Маладзечаншчыны.**

Такім чынам, што маем па выніку:

Падагрэў сядзенняў.

Падагрэў люстэркаў.

Электралюстэрка.

Электраантэна.

Прыемнае асвятленне салона.

Электраўзмацняльнік руля з выбарам рэжымаў.

Люмінісцэнтная шкала прыбораў і самая поўная прыборка.

АП шыфт каробкі перадач.

Сістэма дапамогі пры крананні.

Акустыка ВФ актыў і сабвуфер.

Салон «ВАГ-спорт», падгалоўнікі і падшклянкі задняга раду.

Упраўленне гукам «Фадэр».

Электрашклопад'ёмнікі.

Круіз тэмпамат «ВДО».

Супрацтуманкі.

Дыскі «ЕВО».

Спойлер і бамперы «ГТІ».

Дапрацаваны рухавік і сістэма ўпырску.

Бартавы камп'ютар «МФА».

Каўралін багажніка.

Падагрэў амывальнікаў.

Зумер нявыключаных габарытаў.

Індыкатар непрышпіленых рамянёў.

Дадатковыя прыборы «ВДО» і барада «ВОТЭКС».

Двухбаковая сігналізацыя з аўтазапускам і GPS.

Пераробка пярэдняй падвескі пад электрарэйку і павелічэнне вуглоў нахілу кіраваных колаў. Змяненне стаба. Замена сайлентаў на плаваючыя.

Халадзільнік.

Абагрэў ног пасажыраў задніх сядзенняў.

І гэта ўсё яшчэ выдатна працуе. І ўсё яшчэ ў стадыі далейшага паляпшэння.

Да наступнага сезона ўсталю знакаміты кампрэсар (сапраўдны «грааль» аматараў «Фольксвагенаў» тых гадоў), які дадасць магутнасці рухавіку. А таксама шматпоршневыя пярэднія тармазныя супарты.

Паколькі стыль «янгтаймер» патрабуе максімальнай аўтэнтычнасці з арыгіналам, за некаторымі рэдкімі запчасткамі даводзіцца ганяцца па ўсім свеце, каб іх дастаць, адрэстаўраваць і ўсталяваць у аўто і каб яны працавалі бездакорна.

Аўтамабіль прыносіць кучу ўражанняў і эмоцый ад кіравання. Ён прымушае многіх знаўцаў і абываццеляў азірнуцца, калі «сыходзіш» са святлафора першым ці важна едзеш на прыгожых дысках па гарадах і трасах.

Узімку машыну не эксплуатую, яна ў гаражы на паляпшэнні параметраў і падрыхтоўцы да чарговага аўтасезона.

Улетку аўто амаль кожны год возіць мяне з маімі сябрамі на мора. Многія скажуць, што адлегласць 1700 кіламетраў у адзін бок – далёка. Я скажу – гэта нішто, бралі і больш. Па 32 гадзіны шляху без прыпынкаў, толькі змянялі адзін аднаго. Ніколі не падводзіла ў дарозе.

Машына да апошняй шрубкі сабраная маімі рукамі, таму ўсё якасна і надзейна, некаторыя элементы падвескі пралічваў пры дапамозе камп'ютарнага мадэлявання, каб пераканацца ў надзейнасці.

**Аддзел інфармацыі.**




Гаспадар «Вольвы S60» Арцём Бурачонак са сваёй ластаўкай.




«Фольксваген-Пасат» Дзяніса Міцкевіча.




Пыжык Яўгена Рудкевіча.

## Запрашаюць у Лебедзеўскую капэлу. Далучайцеся!

Лебедзеўская харавая капэла абʼяўляе набор у харавыя партыі.

У вас зʼявіцца выдатная магчымасць развівацца ў творчасці, выступаць на канцэртных пляцоўках, удасканальваць сваё выканальніцкае майстэрства і атрымліваць досвед працы на сцэне!

Музычная адукацыя неабавязковая, толькі ваша жаданне! Узрост – не абмежаваны.

Мы чакаем вас, аматары харавога спеву, для сумеснага музыцыравання, выступленняў з канцэртамі перад беларускай аўдыторыяй і ўдзелу ў конкурсах і фестывалях!

Капэла, заснаваная ў 1937 годзе, мае званне «народная». Рэпертуар складаюць беларускія народныя песні, іх апрацоўкі, кампазіцыі сучасных беларускіх аўтараў, класічныя творы, а таксама песні з папулярных кінастужак.

Лебедзеўская народная харавая капэла вядзе актыўную канцэртную дзейнасць, прымае ўдзел у шматлікіх раённых мерапрыемствах, канцэртных праграмах да каляндарных святаў. Творчы калектыў заўсёды жаданы госць на шматлікіх фестывалях і конкурсах.

Дадатковая інфармацыя і даведкі па нумары (0176) 77-28-52.

**Надзея БОНДАР.**

## Зімовая рыбалка пакуль бяспечная

ВІЛЕЙКА

Нягледзячы на тое, што ўжо другая палова лютага і ўдзень тэмпература можа быць каля нуля і нават вышэйшая, зімовая рыбалка пакуль бяспечная. Пра гэта нам расказалі ў Вілейскай выратавальнай станцыі.

Адзінае, рыбачыць трэба далей ад тых месцаў, дзе плынь ракі ўтварае вымоіны.

– Ноччу па-ранейшаму мароз, таму лёд моцны, – адказалі нам у выратавальнай станцыі. – У будныя дні ў полі нашага зроку – каля 150 рыбакоў. У выхадныя бывае больш.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Зладзілі літаратурную гасцёўню

МАЛАДЗЕЧНА

Цэнтралізаваная клубная сістэма запрасіла жыхароў і гасцей горада 20 лютага на літаратурна-музычную гасцёўню «Матчына мова вуснамі жанчын».

У праграме былі музычныя выступленні, вершы, сустрэчы з паэткамі **Тамарай Бунтай**, **Таццянай Атрошанкай**, **Лідзіяй Гардынец**, **Тамарай Аўсяннікавай**, **Святланай Капуцкай**.

Беларускія песні прагучалі ў выкананні аматарскага абʼяднання «Бабулі 21 стагоддзя». У рамках творчага вечара этнаграфічны клуб «Кола» зладзіў майстар-клас па беларускіх народных танцах.

**Аддзел інфармацыі.**

## Вілейскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі прызнаны лепшым на Міншчыне

ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

Вынікі работы за 2018 год падвёў Мінскі абласны цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя.

Вызначылі пераможцаў традыцыйнага конкурсу сярод раённых устаноў гігіены і эпідэміялогіі цэнтральнага рэгіёна. Трэцяе месца – у спецыялістаў Валожынскага РЦГіЭ. Другімі сталі іх калегі са Стаўбцоўскага раёна, якія на працягу 10 гадоў не здаюць лідзіруючых пазіцый па выніковасці сваёй працы і ўваходзяць у тройку лепшых цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі Мінскай вобласці. Найвышэйшай жа ацэнкі заслужыў па выніках мінулага года дзяржаўны санітарны нагляд, які ажыццяўлялі на тэрыторыі раёна спецыялісты Вілейшчыны. Яны ўдастоеныя першага месца пры ацэнцы нарматыўна зацверджаных паказчыкаў працы.

**Паводле mlyn.by.**

## На Спеўным сходзе прагучалі «Бітлы» па-беларуску

ВІЛЕЙКА

У Вілейку 16 лютага прыехаў музыка і перакладчык **Мікіта Найдзёнаў**. Ён вучыў вілейчукоў спяваць «Бітлаў» па-беларуску ва ўласным перакладзе. У рэпертуары Мікіты – 16 такіх песень.

Ансамбль гітарыстаў «Адэліта» пад кіраўніцтвам настаўніка Вілейскай школы мастацтваў выканаў папуры на хіты «Бітлз».

Вяла мерапрыемства віляйчанка **Эла Кулеш**. Сярод наведнікаў было больш сталых людзей, чым моладзі.

Нагадаем, што праект «Спеўны сход» ладзяць ад 2014 года. Яго арганізатары – **Сяргей Доўгушаў** і **Аляксей Чубат**. Дзякуючы арганізатарам і валанцёрам, праект паступова перайшоў у рэгіёны, у прыватнасці ў Вілейку і Маладзечна.

**Аддзел інфармацыі.**



Будаўніцтва кінатэатра «Перамога» ў Вілейцы, 1941 год.

# Ці зʼявіцца гандлёвы цэнтр у будынку кілбаснага цэха?

ВІЛЕЙКА

**У цэнтры Вілейкі не адзін год стаіць будынак. Меркавалася, што ў 2017 годзе тут паўстане модны гандлёвы цэнтр. Аднак да гэтага часу мінакі бачаць там толькі абшарпаныя сцены.**

Будынак некалькі год таму выкупіла ТАА «Гандлёва-забаўляльны цэнтр «Нярыс». З аўкцыёна ў той час прадавалі шэраг абʼектаў у межах указа «Аб некаторых мерах па прыцягненні ў гаспадарчы абарот дзяржаўнай маёмасці, якая не выкарыстоўваецца». Інвестар атрымаў будынак за адну базавую велічыню.

**У адказ таварыства мела абавязацельства пераўтварыць будынак у буйны гандлёвы цэнтр. Такі, куды і віляйчане, і госці райцэнтра будуць прыходзіць сямʼёй па пакупкі і забавы, каб наведаць кафэ.**

Дырэктар «Нярыса» лічыў узорам будучага цэнтра маладзечанскі «Модуль». У 2015 годзе ён публічна абяцаў, што адкрыццё віляйчанам варта чакаць у 2017 годзе.

### Райвыканкам: інвестар апынуўся нядобрасумленны

Ці чакаць жыхарам райцэнтра сучасны гандлёвы цэнтр, мы распыталі ў намесніка начальніка аддзела эканомікі райвыканкама **Святланы Вярбіцкай**:

– Цяпер мы займаемся тым, што забіраем будынак праз суды. Інвестар не выканаў свае абавязацельствы, яму «свецяць» сурʼёзныя выплаты. Справа на разглядзе ў Вярхоўным судзе. Калі закончым працэдуру, зможам шукаць новых інвестараў для гэтага будынка.

Справа супраць ТАА «Гандлёва-забаўляльны цэнтр «Нярыс» на разглядзе ў Вярхоўным судзе. Суд вырашыць, з чым застанецца «Нярыс» і што атрымае Вілейскі райвыканкам.

### Гісторыя будоўлі кінатэатра «Перамога»

Будынак, у якім збіраліся адкрыць гандлёвы цэнтр, мае сваю гісторыю. Пра яе нам распавяла навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава** паводле архіўных дакументаў занальнага дзяржаўнага архіва ў Маладзечне.



ПОСТАНОВЛЕНИЕ №
Вилейского Городского Совета

От 13-го марта 1940 года

СЛУШАЛИ:
Об отводе участка под строительство кинотеатра.

ПОСТАНОВИЛИ:
Отвести под строительство театра участок расположенный по улице 1-го Мая и угол Мицкевича согласно прилагаемой выкаперовки с горизонталями.

ПРЕДСЕДАТЕЛЬ ВИЛЕЙСКОГО ГОРСОВЕТА- /ЕГОРОВ/.

СЕКРЕТАРЬ ВИЛЕЙСКОГО ГОРСОВЕТА- /РАБИНОВИЧ/.

Пастанова Вілейскага гарадскога суда.

Вілейскую вобласць утварылі 4 снежня 1939 года з цэнтрам у Вілейцы. Народнагаспадарчы план 1940 года прадугледжваў будаўніцтва ў абласным цэнтры адміністрацыйных, гаспадарчых і культурных устаноў, жылых дамоў і школ.

На пасяджэнні Вілейскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных ад 13 сакавіка 1940 года слухалі «аб адводзе ўчастка пад будаўніцтва кінатэатра на 500 месцаў». Пастанавілі: "Адвесці пад будаўніцтва кінатэатра ўчастак, размешчаны па вуліцы 1 Мая і на рагу Міцкевіча. Былая вуліца Міцкевіча цяпер – Партызанская.

Але будаўніцтва не змаглі закончыць, вывелі толькі каробку – пачалася Другая сусветная вайна.

1 верасня 1949 года Вілейскі гарсавет дэпутатаў працоўных прыняў рашэнне перадаць каробкі недабудаванага кінатэатра ў Вілейцы аблмаслапраму пад халадзільнік.

– Сёння гэты прыгожы, закінуты, пустуючы будынак з калонамі размяшчаецца побач з кінатэатрам «Мір».

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Фота з Беларускага дзяржаўнага архіва кінафонафотадакументаў у Дзяржынску Мінскай вобласці.**

ТЭМА НУМАРА

# Пайшла на майстар-клас па масажы, а вярнулася з крэдытам

## Віляйчанка не ведае, як вярнуць масажную накідку, набытую падчас прэзентацыі

ВІЛЕЙКА

**Віляйчанка Тэрэза П. у пачатку лютага прыйшла на майстар-клас па масажы, а вярнулася дамоў з крэдытам на чатыры тысячы чатырыста рублёў. Пры гэтым сама не зразумела, як так атрымалася.**




Вядучыя на прэзентацыях абяцаюць, што дзякуючы падобным прыстасаванням вы забудзеце пра хваробы спіны.

### Ішла на майстар-клас, трапіла на прэзентацыю вібранакідак

А пачалося ўсё з таго, што жанчыне патэлефанавалі на дамашні тэлефон. Прыемны голас спытаў, ці ўваходзіць яна ў катэгорыю 37+ і ці мае праблемы з пазваночнікам. Пачуўшы станоўчыя адказы, добразычлівец запрасіў жанчыну на майстар-клас па масажы ў выставачную залу імя Сілівановіча, што ў Вілейцы.

Хутка пасля тэлефоннай размовы жанчына атрымала запрашэнне.

– Мама ішла на майстар-клас, а трапіла на рэкламную прэзентацыю так званых вібранакідак – прыстасаванняў, якія кладуцца на крэсла і робяць масаж, – расказвае **Юры**, сын Тэрэзы.

У канцы прэзентацыі атрымалася так, што Тэрэза П. быццам бы выйграла падарункі – коўдру і падушкі. Вядучыя жанчыну павіншавалі, здзівіліся, як ёй так пашанцавала. А пасля растлумачылі, што падарункі аддадуць толькі пры ўмове, што жанчына набудзе масажную накідку з цудадзейнымі тэрапеўтычнымі якасцямі.

### Вібранакідка нават нашкодзіла здароўю

– Маці – жанчына разумная. Шмат гадоў працуе ў краме. Але пачала афармляць дакументы. Ёй паказвалі, дзе падпісаць, і ўвесь час прыспешвалі: маўляў, ужо вечар, нам трэба ад'язджаць, – расказвае Юры.

Аказалася, што жанчына падпісала крэдытную дамову на чатыры тысячы чатырыста рублёў. Юры не разумее, як гэта маглі зрабіць. Заробак жа ў маці – трыста рублёў. А пра яго памер банк нават не пытаўся.

У сям'і палічылі, што такія грошы з заробкам у трыста рублёў маці не выплаціць. Пачалі думаць, як скасаваць дамову. Больш за тое, праз некалькі дзён пасля выкарыстання пакупкі ў жанчыны значна пагоршылася здароўе. Яна звярнулася ў паліклініку, што пацвярджае даведка. Аказалася, цудадзейная накідка мае шмат супрацьпаказанняў. І Тэрэзе са сваімі захворваннямі такім прыстасаваннем карыстацца забаронена, пра што ў даведцы ёсць запіс.

### Кансультант з «Базіса поспеху»: Трэба было лепш думаць перад пакупкай

Пра тое, што на працягу 14 дзён набыты тавар можна вярнуць, кажа Закон аб абароне правоў спажыўцоў ад 20 снежня 2001 года. Сям'я стала тэлефанаваць у фірму «Базіс поспеху», якая ладзіла той майстар-клас у Вілейцы. Трубку вельмі доўга не здымалі. Калі ж атрымалася датэлефанавацца і расказаць пра бяду, пачулі адказ:

– Я так разумею, хтосьці з вашых блізкіх набыў накідку? На пытанне пра супрацьпаказанні адказаць не магу. Я не медык. А вярнуць накідку ў вас не атрымаецца, бо гэта тавар медыцынскага прызначэння. Трэба было лепш думаць перад пакупкай.

Аналагічны адказ атрымалі падчас асабістай сустрэчы з прадстаўнікамі фірмы. Сям'я напісала прэтэнзіі ў пракуратуры Вілейскага раёна і Мінскай вобласці, у фірму «Базіс поспеху». Цяпер чакаюць адказаў.

Юры ўжо знайшоў людзей, якія пацярпелі ад гэтай фірмы. Некаторыя пагадзіліся напісаць агульную скаргу, некаторыя – не, кажуць: самі вінаватыя, раз падпісалі крэдытную дамову. Цікава, што ў Вілейцы фірма працавала пад назвай «Базіс поспеху», у іншых гарадах – «Каралева-сіці», або «Аляўціна плюс».

– Са сваёй праблемай мы будзем разбірацца самі, – кажа Юры. – Але вельмі не хацелася б, каб у такія сітуацыі траплялі іншыя сталыя людзі. Калі мы прыязджалі ў тую фірму разбірацца, на стале я бачыў вялізны стос такіх запрашэнняў, якія атрымала маці. Гэта ж стольկі патэнцыйна падмануты людзей!

### Таварыства аховы спажыўцоў: Самі прыйшлі, самі падпісалі… Хто ж вінаваты?

Старшыня Беларускага таварыства аховы спажыўцоў **Ганна Суша** сказала, што падобныя звароты ў іх службу вельмі частыя.

– Такая практыка называецца прамымі продажамі. Людзей запрашаюць на прэзентацыю і адразу там прадаюць нейкі тавар. Атрымліваецца, самі прыйшлі, самі падпісалі… Канешне, шкода людзей. Але ж хто ж тут вінаваты?

Па словах Ганны Сушы, магчымасць вяртання залежыць ад тавару. Калі гэта посуд або нявыкарыстаныя коўдры і падушкі, вярнуць тавар можна. Адзінае, такія тавары трэба вяртаць або падчас іншай прэзентацыі гэтага прадаўца ў вашым ці бліжэйшым горадзе, або самастойна везці на фірму. Перад гэтым трэба даць на адрас арганізацыі тэлеграму, што тавар не падыходзіць і вы б хацелі скасаваць дамову. Не варта адпраўляць тавар па пошце. Па словах Ганны Уладзіміраўны, у Гродне паштовыя аддзяленні проста завалены вернутымі таварамі, але іх ніхто не забірае.

У таварыстве абароны спажыўцоў нам растлумачылі, што масажную вібранакідку вярнуць увогуле нельга, бо гэта складанае тэхнічнае прыстасаванне.

**Падчас такіх прэзентацый спецыяліст раіць патэнцыйным пакупнікам абавязкова раіцца з роднымі па мабільным тэлефоне. Але вядомыя ўжо і такія выпадкі, калі на падобных прэзентацыях тэлефоны могуць папрасіць адключыць.**

Ва ўпраўленні Следчага камітэта нам паведамілі, што падобныя справы тут пакуль не разглядалі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Матч «БАТЭ» з «Арсеналам» адкрыў хлопчык з Маладзечна са слабым зрокам

МАЛАДЗЕЧНА

**14 лютага ў Барысаве адбыўся матч паміж «БАТЭ» і лонданскім «Арсеналам» у 1/16 фіналу Лігі Еўропы. Адкрыў матч выхаванец маладзечанскай школы-інтэрната №2 Руслан Кашкоўскі.**

Руслану 12 год. Больш за пяць год ён захапляецца футболам і марыць стаць прафесійным спартсменам. Некалькі год таму адбыўся нешчаслівы выпадак, пасля якога дзіця страціла зрок на адным воку. Нягледзячы на гэта, хлопчык марыць пра прафесійны спорт і гатовы трэніравацца без палёгак.

Футбольны трэнер **Аляксей Філіпаў** напісаў ліст кампаніі KIA Motors, якая з'яўляецца партнёрам Лігі Еўропы. Прапанаваў зрабіць вучня школы-інтэрната юным арбітрам. Кампанія пагадзілася.

Праект «Юны арбітр KIA» дапамагае дзецям па ўсім свеце здзяйсняць мары: адкрываць галоўныя спартыўныя спаборніцтвы, — расказвае начальнік аддзела маркетынгу KIA ў Беларусі **Вольга Сікорская**. – Мы рады, што ў нас атрымалася рэалізаваць такі добры праект ужо двойчы.



Руслан Кашкоўскі адкрывае матч паміж «БАТЭ» і «Арсеналам».

Фота pressball.by

**Усе хлопчыкі ў школе-інтэрнаце ведаюць, што Руслан марыць быць такім жа спрытным, як Мэсут Азіл і Аляксандр Глеб.**

– Да таго моманту, калі адчыніліся дзверы стадыёна і трэба было выйсці на поле, я не хваляваўся, – дзеліцца ўражаннямі Руслан Кашкоўскі. – Напэўна, не верыў, што гэта адбываецца са мной. Але пасля вакол мяне сталі збірацца спартсмены. Сярод іх былі нашы **Стасевіч** і **Глеб**, **Чэх** з «Арсенала». І я нарэшце ўсвядоміў, што менавіта мне даверылі адкрыць такі буйны матч. Хлопцы з каманды сказалі, што ў гэты дзень на «Барысаў-Арэне» было каля 13 тысяч чалавек, калі не больш.

Трэнера, дырэктара і дзесяцярых гульцоў каманды Руслана таксама запрасілі на «Барысаў-арэну». Для многіх выхаванцаў школы-інтэрната гэта стала першай магчымасцю ўбачыць матч такога маштабу. Для падарожжа юных спартсменаў KIA даставіла некалькі аўтамабіляў з асабістымі кіроўцамі, якія ў дзень матча завезлі хлопчыкаў у Барысаў, а пасля адвезлі ў Маладзечна.

**Паводле pressball.by.**

# «Нам не пашанцавала»

## Маладзечанскія зубры прайгралі жлобінскім ваўкам

МАЛАДЗЕЧНА

**Матч экстралігі паміж жлобінскім ХК «Металург» і «Дынама-Маладзечна» прайшоў 16 лютага ў гасцях.**

Спаборніцтва скончылася з лікам 3:1 на карысць гаспадароў. Адзіны гол з боку маладзечанцаў забіў **Кучкін**.

На папярэдні гульні са жлобінскай камандай 14 лютага перамаглі маладзечанцы з лікам 1:4.

Галоўны трэнер «Металурга» **Аляксандр Гаўрылёнак** пракаментаваў матч:

– Мы навучыліся на ўроках не толькі з мінулага пройгрышу, але і з матчаў супраць «маладзёжкі» і «Гомеля». Аказваецца, чым менш мы гуляем у зоне саперніка, тым лепш для нас. Так сёння і атрымалася. У трэцім перыядзе гасцілі ў зоне саперніка рэдка, але правялі некалькі ўдалых контратак, закінулі шайбу і перамаглі.

Калі шмат гуляем у атацы, ствараем масу момантаў, але чамусьці ў галы сваю актыўнасць пераўтварыць не можам. Таму сёння вырашылі згуляць больш на контратаках. Гэта атрымалася і прывяло да перамогі.

– Можа, гэта тактыка падыходзіць вашай камандзе?

– Гэта наш козыр. «Дынама» – вельмі моцная каманда, што яна і паказала і ў чацвер, і сёння. Моцная, хуткая. Вельмі цяжка было супрацьстаяць дынамаўцаў гуляць. Але нашы хлопцы былі сёння добра заражданыя, самааддача апынулася на ўзроўні. У чацвер былі бойкі, сёння сутычкі таксама былі. З такім жаданнем штосьці станоўчае павінна было атрымацца.

Галоўны трэнер «Дынама-Маладзечна» **Юры Файкоў** пракаментаваў матч так:

– Гульня да апошняга трымала ў напружанні, нам крыху не пашанцавала. Канешне, адбыўся двухтыднёвы выезд з доўгімі пераездамі. За 11 дзён правялі шэсць матчаў. Так што нічога страшнага. Цяпер адпачнём і за працу.

– Гэты матч нечым адрозніваўся ад папярэдняга, акрамя выніку?

– Мінулая сустрэча была больш эмацыйнай. Менавіта з пункту гледжання работы каманды. Напэўна, прытаміліся, таму сёння эмоцыі ўжо крыху не тыя. Але, паўтаруся, усё роўна матч атрымаўся добрым і напружаным.

– Сапернік у нечым вас перавысіў ці гульня была роўнай?

– Абсалютна роўнай. Каб мы закінулі больш, рэалізавалі свае моманты – усё магло б скласціся па-іншаму.

Бліжэйшыя дамашнія матчы экстралігі пройдуць 26 і 28 лютага і 2 сакавіка.

**Паводле прэс-службы ХК «Дынама-Маладзечна».**




Момант гульні паміж «Дынама-Маладзечна» і жлобінскім «Металургам».

Скрыншот з відэа sport.tut.by

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Адзін з абавязковых інгрэдыентаў газіраванага салодкага напою.
4. Важная частка ўзнагароджвання лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі – банкет. Другі тост падчас яго заўсёды за Альфрэда Нобеля. А хто абавязкова павінны быць героем першага тоста?
5. Тое, што неабходна выканаць, рашыць.
6. Слоўны абмен звесткамі, думкамі.
9. Анатоль Вярцінскі: «Ёсць звон ручая, ёсць свежасць рос, Ёсць веліч вяршыні горнай. І ёсць яшчэ адно з дзівос, Гэта – жаночая ...».
13. У многія краіны Афрыкі забаронена ўвозіць гэту рэч. На тэрыторыях краін забаронена іх вырабляць і прадаваць.
14. Прадметы і прыналежнасць для запрагання або сядлання коней і іншых цяглавых жывёл.
17. Краіна, дзе жыве больш альбіносаў, чым у любой іншай.
18. Імя антаганіста хана Канчака з твора, вядомага балетным фрагментам «Палавецкія скокі».
21. Польская сталіца да 1610 года.
22. Аграгарадок у Валожынскім раёне, дзе ў час Другой сусветнай вайны адбылася карная аперацыя «Герман». Уратавалася толькі трое мясцовых жыхароў.
26. Гэты населены пункт у старажытнасці меў назву Крывы горад. Падчас перапісу 1897 года сярод яго жыхароў менш за 2% назвалі сябе летувісамі, большая частка была з беларусаў-ліцвінаў.
27. Частка ўбору вялікага князя Вітаўта. Уяўляе сабой камплект срэбраных чаканых пласцін. Артэфакт знайшлі каля вёскі Літва Маладзечанскага раёна ў пачатку 1990-х. Гэта адзін з самых каштоўных экспанатаў Нацыянальнага гістарычнага музея.
28. Матэрыялы разбурэння горных парод, якія ледавік нёс з сабой і адкладваў на сваім шляху.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Вялікая пералётная птушка з доўгай прамой чырвонай дзюбай і высокімі чырвонымі нагамі.
3. Орган самакіравання ў гарадах феадальнай Заходняй Еўропы, а таксама будынак, дзе ён размяшчаўся.
7. Што ў перакладзе са старажытнагрэчаскай значыць слова, ад якога паходзіць найменне «капуста».
8. Квадратныя сцягі сустракаюцца рэдка. Сярод сучасных сцягоў краін такі ёсць у Швейцарыі. Назавіце другую краіну з квадратным сцягам.
10. Абутак з высокімі халявамі.
11. Бой, барацьба паміж варожымі сіламі.
12. Самы зімовы напой, якім саграваліся нашы продкі.
15. Упершыню на тэлебачанні яна з'явілася ў 1939 годзе.
16. Нізкае топкае месца, грузкае балота; дрыгва.
19. Лепшы сябар Чыпа.
20. У гэтай інстанцыі ў часы ВКЛ арыентаваліся на законы і звычаёвае права.
23. Паміж чырвоным і зялёным.
24. Электрамеханічная машына пад кіраваннем камп'ютара або электроннага праграмавання, якая можа выконваць пэўныя задачы. Назву ёй увёў у 1920 годзе чэшскі пісьменнік Карэл Чапек.
25. Краіна, дзе пачалі вырабляць крабавыя палачкі. У аснове прадукта фарш з розных рыб – сурымі. Еўрапейцы не ўспрымалі сурымі для ежы. Тады японцы прыдумалі наносіць на палачку чырвоную фарбу як імітацыю крабавага мяса.
26. У Англіі больш за 150 год быў падатак на іх. Таму ў гэтай краіне многія будынкі так і стаяць дагэтуль – калі замураваная частка з іх.

## Адказы на крыжаванку з №7

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Варона. 3. Коска. 6. Павага. 7. Чарвяк. 8. Кушляны. 9. Мюзікл. 10. Хваля. 11. Флікер. 13. Шуфлядка. 16. Тундра. 20. Бонд. 21. Піва. 22. Шчасце. 24. Тоеснасць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Варвара. 4. Хобат. 5. Казка. 8. Кошык. 12. Бася. 14. Валентнасць. 15. Лютаы. 16. Тор. 17. Кольт. 18. Ландыш. 19. Шалік. 20. Брагін. 23. Анісім. 25. Венецыя.



## ● ГАРАСКОП 22-28 ЛЮТАГА



**АВЕН.** Спрыяльныя дні як для новых пачынанняў, так і для развіцця спраў, якія ўжо былі пачатыя раней. Вас могуць адольваць страхі, часам можа ўзнікаць нерашучасць, але памятайце – вочы баяцца, а рукі робяць. Кіруйцеся гэтым прынцыпам.



**ЦЯЛЕЦ.** Спрыяльны перыяд для кар'ернага росту або якіх-небудзь пачынанняў, звязаных з працай і фінансавым становішчам. Але тут важна не перашчыраваць, расходаваць свае сілы ў меру. Часам варта дзейнічаць не на прамую, а ў абход, згладжваючы сітуацыю, шукаючы альтэрнатыўныя метады рашэння сітуацыі.



**БЛІЗНЯТЫ.** Гэта не лепшы час для пачынанняў, але сказаць як мага больш добрых слоў і падарыць усмешкі людзям, якіх вы любіце, – гэты вы зможаце дакладна.



**РАК.** Не варта прадпрымаць якіх-небудзь сур'ёзных рашэнняў адносна фінансавай абстаноўкі. У гэты час трэба эканоміць і трымаць свае расходы пад дакладным кантролем.



**ЛЕЎ.** Пачынайце працу над сабой: падумайце, ці ўсё вы правільна робіце, ці да тых мэт імкняцеся. Вас чакаюць перамены, але якімі яны будуць, жыццё пакажа. Старайцеся быць у курсе ўсяго, вам гэта можа спатрэбіцца.



**ДЗЕВА.** «Цветастый шелк событий и открытий, звенит хрусталиком любовная струна. И этот запах, этот флёр почти забытый – ты в дымке музыки танцуешь не одна». Прыняцце важных рашэнняў адкладзіце, а вось у асабістым жыцці дапаможа добры настрой і яснасць мэты.



**ШАЛІ.** Тыдзень прынясе не толькі вясенні настрой, але і масу заманлівых прапаноў. Не ўпускайце спрыяльны момант. Цяпер вашы жаданні супадаюць з магчымасцямі.



**СКАРПІЁН.** Вы будзеце круціцца як вавёрка ў коле. І гэта прынясе нядрэнныя вынікі. Другая палавінка здзівіць вас жаданнем аблегчыць цяжкую ношу. Спрыяльны час, каб закласці асновы матэрыяльнага дабрабыту. Пастарайцеся не ўпусціць новыя магчымасці і сітуацыі.



**СТРАЛЕЦ.** Асноўны інтарэс гэтых дзён будзе ляжаць у плоскасці грошай, даходаў і расходаў. Калі вы падбіраеце новы аўтамабіль ці шукаеце іншую работу, то дзейнічайце – і вам усміхнецца фартуна.



**КАЗЯРОГ.** Для вас перыяд дзіўны, усё перамешваецца і ператвараецца ў тэрмаядзерную сумесь, гатовую ў любы момант узарвацца. А што з гэтага атрымаецца – катастрофа ці шчасце – залежыць ад індывідуальнага размяшчэння планет. Вы нагадваеце персанаж з п'есы Чэхава «33 няшчасці». Цярпіце. Пры ўсім тым вы шмат даб'яцеся.



**ВАДАЛЕЙ.** Выбраўшы мэту, не збочвайце з дарогі і не спыняйцеся на палове шляху. Вам цяпер патрэбныя новыя знаёмствы. А калі вы яшчэ акажацеся на адной «хвалі» з субяседнікам, то ўсё астатняе адыдзе на іншы план.



**РЫБЫ.** Можаце займацца ўсім, што толькі не прыйдзе ў галаву, бо наведаюць вас пераважна думкі карысныя і своечасовыя, якія вы зможаце выкарыстаць у інтарэсах усялякай работы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 3 | | | | | | 8 | |
| | | | 7 | | 1 | 4 | | |
| | | | 2 | | | 7 | 9 | 3 |
| 5 | | 1 | 9 | | 2 | | | |
| 6 | | 4 | | | 3 | | | |
| 3 | | | | | | 9 | 5 | |
| | | 5 | | 2 | | | 7 | |
| | | | 4 | 6 | | 8 | 1 | |
| 7 | | 8 | | | | | 4 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


## Чытайце праз тыдзень

● Ці ёсць станоўчыя вынікі ад таго, што дзяржава ўкладае вялікія грошы ў стратныя дзяржаўныя прадпрыемствы? Ці можа ўсё ж лепш падтрымаць прыватны бізнес? Якую працу прапануюць у рэгіёне і чаму некаторыя вакансіі вісяць на сайтах аддзела занятасці ледзь не па паўгода? Разгледзім у наступным нумары эканамічныя пытанні.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Сёння на сайце банка аплачваў дзяржпошліну за скасаванне шлюбу. І ведаеце, што? Клапатлівы банк прапанаваў мне стварыць шаблон па дадзенай аперацыі.

## У Маладзечне правядуць конкурс Stand Up «Адкрыты мікрафон-2019»

МАЛАДЗЕЧНА

**Цэнтралізаваная клубная сістэма запрашае жыхароў і гасцей Маладзечна на моладзевы конкурс Stand Up «Адкрыты мікрафон-2019».**

Stand Up – гэта гумар, заснаваны на рэальных падзеях, антыдэпрэсант, які не патрабуе рэцэпта. Гумар на моладзевым конкурсе ў большай ступені паказвае жыццёвыя моманты, з якімі сутыкаецца кожны.

Гумарыстычная конкурсная праграма адбудзецца 28 лютага ў 15:00 па Лібава-Роменскай, 71. Уваход вольны.

**Надзея БОНДАР.**



Фота comedyclubpro.ru.

## Хай зімой вас саграве «Рэгіянальная газета»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## 23 лютага, субота

**Вецер:** заходні, 5-6 м/с




ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. **ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -26,7°C у 2007 годзе
Максімальная тэмпература +11,2°C у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,9 мм у 2004 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Які ваш самы яскравы ўспамін з дзяцінства?



**Аляксандр Клемянтовіч, інструктар школы выжывання «Альфа»:**

– У сем гадоў бацькі прывезлі мяне з вёскі на Вілейшчыне, дзе жыў з бабуляй і дзядулем, у Маладзечна. Летні дзень, стаю за плотам, разглядаю мінакоў. Раптам два дарослыя хлопцы частуюць кавуном, якога ніколі не еў. Учынак і неверагодны смак кавуна запомніліся на ўсё жыццё.



**Таццяна Гайдукевіч, тэхнолаг:**

– Чамусьці ўспаміны з дзяцінства не вельмі вясёлыя. Але дагэтуль памятаю пах бацькавага дыпламата, хаця яго больш за 20 гадоў няма з намі. Памятаю, калі была ў першым класе, бацька прывёз з камандзіроўкі ў Ленінград мне ранец з вожыкам, а брату цацачны пісталет.



**Вольга Саўк, у дэкрэтным адпачынку:**

– У пяць гадоў зімой ішла з садка. Чамусьці захацелася праверыць глыбіню снегу ў канаве. Скокнула і бачу толькі неба. Пашчасціла, за мной ішоў хлопчык, які паклікаў на дапамогу. Тады спалохалася, што застануся ў снезе на ўсё жыццё. Але гадоў у 11 усё роўна скакала ў канавы.



**Дыяна Карэліна:**

– Памятаю, як у дзіцячым садку іграла ва ўсіх спектаклях. Была і Снягуркай, і лялькай. Да школы займалася ў балетнай студыі ў Доме культуры чыгуначнікаў і выступала на сцэне.



**Віталь Ляўковіч, дальнабойшчык:**

– Запомніліся паездкі ў Крым, праводзіў кожнае лета ў Ялце. Там былі прыгожыя пейзажы. На той час мне было каля шасці гадоў.



**Валеры Далідовіч, фатограф:**

– Артэк, лагер «Марскі». Мне было 13 гадоў. Дух свабоды, мора, танцы. Вучылі, як біць у барабан. Музей касманаўтыкі, флоту. Тады першы раз сеў за руль аўто. На той час быў самы дэмакратычны лагер у СССР. Перад маёй зменай у чырвоным корпусе жыла Саманта Сміт. Усяго не перадаць.



**Аляксандр Луцкі, абліцоўшчык-плітачнік:**

– Маё дзяцінства было ў пачатку 90-х. Радаваліся кожнай дробязі: адна жуйка на траіх, гульня ў вайнушку з палкамі. Але адзін з самых яскравых успамінаў – гэта калі бацькі падарылі мне ровар. І радасць дапаўняла тое, што іншыя дзеці прасілі ў мяне на ім пакатацца.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№8 (1243) 22.02.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 289. Падпісана ў друк у 9.00 21.02.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.